ДЗЕ АДПАЧНУЦЬ



ВЯДОМЫЯ ЛЮДЗІ

СТАР. 4–5

# ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

КУПАЛАЎСКІ СУПРАЦЬ

СВАБОДНАГА ТЭАТРУ




СТАР. 5, 7

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА 24.05.12-30.05.12 г.


# УРА ДАРАГОМУ МЯСУ?




*Новыя заробкі зусім не пакрываюць новых коштаў*

Чарговым сведчаннем беспрэцэдэнтнага "росквіту" Беларусі пад кіраўніцтвам Аляксандра Лукашэнкі стала травеньскае павышэнне коштаў на мяса і малако.

## СУЦЭЛЬНЫЯ МІФЫ

Прадукты чаму даражэюць? Таму што ўлады забяспечваюць такі імклівы рост узроўню жыцця, што новыя цэны беларусу нібыта слану драбіна.

Асобныя перадавікі ідэалагічнай вытворчасці наогул лічаць, што яшчэ недастаткова грошай мы пакідаем у прадуктовых крамах. Актывістка фэпэбэшнага прафсаюза Марына Цыбліенка падчас суда з апазіцыянерам Віктарам Івашкевічам заявіла, што "ўрад слушна зрабіў", узняўшы цэны на мяса, бо яны ў нас ніжэйшыя, чым у суседзяў...

Гэты міф, які ахвотна распаўсюджвае і сам Аляксандр Лукашэнка, не вытрымлівае праверкі. "Камсамольская праўда ў Беларусі" высвятліла, колькі каштуе мяса ў розных краінах. Да прыкладу, цана філе свініны ў Мінску зараз складае 75–85 тысяч рублёў за кілаграм, а ў Кіеве яно каштуе, у пераліку на нашы грошы, каля 63 тысяч. У Вільні — 45 тысяч, у Варшаве — 40 тысяч!!! Толькі ў Маскве філе свініны даражэйшае — недзе каля 100 тысяч за кг.

> "Актывістка фэпэбэшнага прафсаюза Марына Цыбліенка падчас суда з апазіцыянерам Віктарам Івашкевічам заявіла, што "ўрад слушна зрабіў", узняўшы цэны на мяса, бо яны ў нас ніжэйшыя, чым у суседзяў..."

Але ж наша сельская гаспадарка атрымлівае вялізныя датацыі з дзяржаўнага бюджэту. Чаму тады такое дарагое ў Беларусі мяса? Таму што ў нас занадта мудры кіраўнік?

Ідзём далей. Інтэрнэт-газета Naviny.by параўнала кошты на цэлы шэраг прадуктаў у Нямеччыне, Літве і Беларусі. Штосьці ў нас танней (чорны хлеб, цукар, мука, морква), штосьці даражэй (сыр, перац, таматы, куры). Аднак, калі глядзець агулам, атрымалася прыкладна тое на тое. Але ж беларускія заробкі значна ніжэйшыя за нямецкія і нават літоўскія!

## 30 ЗАМЕСТ 70

Пра наступствы гэтага распавяла на прэс-канферэнцыі загадчык аддзела навукова-практычнага цэнтра Акадэміі навук Беларусі па харчаванні Элеанора Капітонава.

*Заканчэнне на стар. 3*

ПРАГНОЗ

## ЦІ МАЕ LITESOUND ШАНЦЫ?

Спадзеў на «еўрафармат» і скандальны імідж, піша "Наша ніва".

Настолькі вялікага ажыятажа, як сёлета, вакол прэтэндэнтаў на паездку на «Еўрабачанне» ў Беларусі ніколі не было. У выніку, пасля паразы віцебскіх ідэолагаў, пошуку вінаватых і пакарання паловы арганізатараў «Еўрафэста», у Баку адправілі гурт Litesound, які імкнуўся на «Еўрабачанне» ўжо некалькі гадоў.

Браты Каракіны і напраўду глядзеліся лепш за астатніх на «Еўрафэсце» — яны былі адзіныя з шасці заяўленых выступоўцаў, хто грае блізкую еўрапейскаму попэфіру музыку: меладычную, сучасную і стрымана-гітарную.

Рыхтуецца нават беларускамоўная версія песні We're the Heroes, з якой гурт і прыехаў у Баку. Прызначаны беларускамоўны варыянт для радыё, на «Еўрабачанні» прагучыць усё ж англійскі.

Мяркуючы па выніках першага паўфінала, шанцы трапіць у фінал у беларусаў сёлета ёсць (у мінулым годзе пралёт Віннікавай быў болей чым прадказальным), а там ужо як карта ляжа — сёння паглядзім, з кім апроч «Бураноўскіх бабуляў» давядзецца сутыкнуцца ў фінале.

# А ВЫ ГАТОВЫЯ ПЛАЦІЦЬ У 2 РАЗЫ БОЛЬШ ЗА КАМУНАЛКУ?

У хуткім часе “жыроўкі” за камунальныя паслугі могуць увесці ў ступар шматлікія катэгорыі нашых грамадзян. Наколькі жорсткім можа быць гэты ступар, разбіралася “Тут і цяпер”.

**БАРЫС ЖАЛІБА, ПРАФЕСАР, ДОКТАР ЭКАНАМІЧНЫХ НАВУК:**

### “У ДВА РАЗЫ – ГЭТА ЗАНАДТА”.

– Я думаю, што ўсё ж такі гэта чуткі. Таму, што ў два разы, наколькі я памятаю, ніколі ўлады тарыфы на камунальныя паслугі не падымалі адным разам. Будзем спадзявацца, што і не падымуць. Але тэндэнцыя росту цэн вымалёўваецца ўсё ясней і ясней. Паглядзіце апошні скачок цэн на мяса. Ужо пабачылі свініну за сто тысяч. Гэта сведчыць, што з'яўляецца тэндэнцыя паскоранага росту цэн. Нічога не праходзіць дарма. Заработную плату падвышалі некалькі раз. Стаўку першага разраду падвышалі. Пенсіі падвышалі. З аднаго боку гэта трэба. А з іншага боку ёсць эканамічная заканамернасць. Рост зарплаты не павінен апярэджваць рост прадукцыйнасці працы. І прэзідэнт, і старшыня Нацыянальнага банку пра гэта гавораць. Але гэта толькі размовы. Таму, што такімі тэмпамі ў нас прадукцыйнасць працы не расце. І, натуральна, гэта ўсё адбіваецца на росце цэн. І мы можам вярнуцца да таго чорнага сцэнарыя, які быў у мінулым годзе. Пра гэта ўжо многія эканамісты папярэджваюць. Пра гэта ж папярэдзіў МВФ, калі зрабіў сваю аналітычную справаздачу па сітуацыі ў беларускай эканоміцы. І мы бачым, што гэтая небяспечная тэндэнцыя выяўляецца ўсё ясней і ясней. Таму чакаць можна ўсякага. Але каб “камуналка” вырасла ў два разы – гэта ўжо занадта. Вялікая частка насельніцтва проста не ў стане будзе гэта аплаціць жыллёва-камунальныя паслугі.

**ВАЛЯНЦІНА ЛУКАШЫК, ПРАДПРЫМАЛЬНІЦА:**

### “ПРЫЙДЗЕЦЦА АД ЧАГОСЬЦІ АДМАЎЛЯЦЦА”.

– Як можна спакойна ставіцца да гэтай навіны? Усё гэта вельмі напружвае. У любым выпадку гэта будзе адчувальна. Нават не для самага тонкага кашалька. Бо заўжды ёсць, куды падзець гэтыя грошы. У параўнанні з крамай гэта не настолькі балюча. Бо колькі сродкаў забіраюць прадукты, самі ведаеце. З-за іх падаражання ўжо шмат чаго сабе не можаш дазволіць. Лішні раз у рэстаран не пойдзеш. Лішні раз за руль не сядзеш. Лішні раз адмовіш сабе ў якім боўлінгу. Як выжываюць пенсіянеры, зусім не ўяўляю. Яны мяса, напэўна, зусім не купляюць. Усё павінна даражаць адэкватна. Узровень жыцця павінен павышацца, каб гэта ўсё аплачваць. А ён падае.

**ДА ВЕДАМА**

**Министр жилищно-коммунального хозяйства Андрей Шорец заявил, что в ближайшее время услуги ЖКХ подорожают более чем вдвое.**

По его словам, в конце прошлого года население платило только 16,6% от реальной стоимости услуг ЖКХ. Однако в этом году предусмотрен уже 35-процентный уровень возмещения населением затрат.

«Есть программа социально-экономического развития Беларуси, которой предусмотрено доведение этого показателя до 60%, по отдельным услугам - до 100 % (то есть тепло останется дотируемым, а вывоз мусора, вода, канализация выйдут на 100-процентный уровень возмещения затрат)», - рассказал на прямой линии в газете «Рэспубліка» Андрей Шорец.



*Старая камуналка адыходзіць назаўсёды ў нябыт*

**ВАДЗІМ СКРЫПЧАНКА, ПЕНСІЯНЕР, БЫЛЫ НАСТАЎНІК:**

### “ГЭТА ВЕЛЬМІ РАДАСНАЯ НАВІНА”.

– Усяго толькі ў два разы? Ну, дык гэта занадта мякка для беларусаў. Хаця, прабачце, беларусаў амаль не засталося. Для жыцеляў Беларусіі. Я ўсё думаў, калі ж прыйдзе расплата за ўсе іх выбары, рэферэндумы, чаркі, шкваркі і стабільнасці? Здаецца, пачынаецца плата па ўсіх рахунках. Хацелі жыць, як у стабільным Савецкім Саюзе? Атрымайце і распішыцеся. Але ў Савецкім Саюзе звычайныя джынсы былі адзеннем для багатых. Машыною лічыўся “жыгуль”, за якім яшчэ трэба было ў чарзе не адзін год пастаяць. Балгарыя была крутая заграніца, куды без візы прафкома, рэкамендацыі партыйнай ячэйкі і дваццаці характарыстык не вырвешся.

**ГАННА ХОМЧЫК, ПЕНСІЯНЕРКА:**

### “РАТАВАННЕ ТОЛЬКІ Ў ЗДАЧЫ ЖЫЛПЛОШЧЫ”.

– А куды дзенешся? Калі б я не здавала адзін пакой студэнтам, я не ўяўляю, як бы я жыла. А калі падымуць у два разы “камуналку”, тады прыйдзецца і мне крыху падняць плату за пакой. Многія мае знаёмыя пенсіянеркі так жывуць, здаючы жылплошчу.

**ВЕРАНІКА ДЗЯЛЕНДЗІК, ШМАТДЗЕТНАЯ МАЦІ:**

### “У ПЕРШУЮ ЧАРГУ ГЭТА ЎДАРЫЦЬ ПА ДЗЕЦЯХ”.

– Зараз, калі яшчэ няма ацяпляльнага сезона, я плачу каля 180 тысяч рублёў за камуналку. А плаціць прыйдзецца 350 тысяч? Гэта значыць дзесяць працэнтаў сямейнага бюджэту. У сённяшняй сітуацыі можна многа ад чаго адмаўляцца. Але закладнікамі ўсё роўна стануць дзеці. А ім немагчыма патлумачыць, што ў краіне крызіс, што ў нас непісьменнае кіраўніцтва і гэтак далей. Я бы была згодная з падняццем “камуналкі”, калі б паралельна адбываўся рост заробкаў. А ўзровень жыцця ўпаў настолькі, што гэта ўдарыць у першую чаргу, як заўжды, па самых бедных. Бо падняцце мытаў на аўтамабілі па бедных не ўдарыла. Ці рост коштаў на бензін. Бо не ўсе мяняюць аўто раз на тры гады. А вось ліфтам і смеццеправодам карыстаюцца ўсе. І гарачай вадой таксама. Не кажучы ўжо пра электрычнасць.

**АПЫТАННЕ ПРАВЁЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

# УРА ДАРАГОМУ МЯСУ?

Паводле вынікаў даследаванняў, грамадзяне нашай краіны штогод спажываюць мяса амаль на 20 кілаграмаў менш, чым патрэбна арганізму. Прычым гэта пры досыць сціплых нормах: замест рэкамендаваных 70 грамаў ялавічыны ў суткі беларусы ў сярэднім ядуць толькі 30.

Яшчэ больш жахлівая карціна назіраецца з садавінай і ягадамі: іх беларус недаядае ажно 65 кілаграмаў на год. А гэта ж асноўныя крыніцы вітамінаў.

"У нас ніхто не галадае!" — будуць сцвярджаць прыхільнікі Лукашэнкі. Аднак незбалансаванае харчаванне наўпрост спрыяе развіццю анкалагічных, сардэчна-сасудзістых ды шэрагу іншых захворванняў.

## ПРАЦЯГВАЕМ ПЛАЦІЦЬ І СЁННЯ ЗА 1994 ГОД

Добра вядомая гісторыя, як у сярэдзіне 90-х Лукашэнка заклікаў беларусаў не есці ўлетку шмат мяса: маўляў, "часовыя складанасці". Але яны доўжацца ўжо больш за 15 год.

У гэтай сітуацыі ўлада ідзе на звычайны падман, сцвярджаючы, што беларусы жывуць, прынамсі, не горш за суседзяў. Па тэлебачанні, радыё і ў дзяржаўных газетах нам увесь час распавядаюць розныя жахі пра Захад. А нашы "недахопы" тлумачацца вынікам "сусветнага крызісу". Аднак у 2011 годзе ён чамусьці адзін прывёў да дэвальвацыі нацыянальнай валюты ў разы.



*Свініна ўсё большай колькасці землякоў становіцца не па зубах*

Супастаўленне заробкаў і коштаў на адны і тыя ж прадукты выдатна дэманструе, якія дзяржавы насамрэч клапоцяцца пра сваіх жыхароў, а якія збольшага балбочуць пра гэта. Дарэчы, даражэй за ўсё Беларусі абыходзіцца яе нязменны кіраўнік. Бо за глупства, зробленае ў 1994 годзе, мы працягваем плаціць і сёння...

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

# ЯК ГЛЯДЗЯЦЬ НА "ЦЕНЯВЫ ЎРАД" З ПРАВІНЦЫІ?

Магілёў у грамадска-палітычным сэнсе з пачатку 2000-х гадоў славіцца стварэннем кааліцыі дэмакратычных сіл, якая неўзабаве стала рэгіянальнай.

Потым яна распалася, і адразу ж утварылася новая кааліцыя, якая вызначылася тым, што афіцыйна абвясціла "вайну" Нацыянальнаму кангрэсу дэмсіл, што скончылася ў 2007 годзе гучным выхадам Магілёўскай кааліцыі з шэрагаў Аб'яднаных дэмакратычных сіл.

Вы не паверыце, але Магілёўская рэгіянальная кааліцыя дагэтуль жыве, працуе, дзейнічае і час ад часу дае самыя розныя нагоды, каб пра яе не забыліся. Зараз яна групуе вакол сябе амаль усе рэгіянальныя арганізацыі апазіцыйных партый і амаль дзясятак грамадскіх рухаў (да яе не прымкнулі толькі БСДП (Грамада) і рух "Гавары праўду!"). Гэтым разам прыярытэтам для яе з'яўляюцца восеньскія выбары дэпутатаў Нацыянальнага сходу краіны. Карэспандэнт **"Тут і цяпер"** сустрэўся са старшынёй абласной Каардынацыйнай рады рэгіянальнай кааліцыі дэмакратычных сіл Юрыем Новікавым.

**— Спадар Юрый, скажыце, калі ласка, як ставяцца сябры вашай кааліцыі да апошніх прапаноў аб стварэнні за межамі краіны так званага цэнтра змагання і супраціву, ці, прасцей кажучы, "ценявога ўрада"?**

— Ну, выразнага стаўлення пакуль што няма. Афіцыйна мы гэта яшчэ не абмяркоўвалі, і з гэтай прапановай да нас ніхто не звяртаўся. Мы бачым рэакцыю на прапанову аб ценявым урадзе на, так бы мовіць, вышэйшым палітычна-грамадскім узроўні ў краіне. Выказваюцца лідары партый, прапанову аналізуюць палітычныя аглядальнікі. Няцяжка заўважыць, што на цяперашні момант практычна ўсе супраць гэтай ідэі. Магу сказаць, што калі яна не атрымае далейшага развіцця, то і я буду супраць. Дзе праграма, дзе канцэпцыя, дзе рэальныя прапановы? Пакуль гэта толькі лозунгі і заклікі, якія ўсе мы чуем вось ужо колькі год. Мы бачым, што недзе за мяжой утварылася група людзей, якія абвясцілі сябе самымі правільнымі апазіцыянерамі і заявілі, што будуць усімі кіраваць. Ну ці можна сур'ёзна меркаваць, што тыя (мо такія ж змагары з рэжымам, як і аўтары ідэі, якія жывуць і дзейнічаюць у краіне непасрэдна, а не ва ўтульнай Еўропе) так лёгка пагодзяцца на тое, каб пайсці да некага ў падначаленне, не маючы дакладнага разумення і гарантый, што і ідэя, і людзі, і рэсурсы, на якія яна разлічана, будуць скарыстаны на карысць вольнай Айчыны?! Хопіць рабіць адзінай мэтай змагання скіданне з пасады адной знаёмай усім асобы. Цяпер апазіцыя слабая, каардынуючага цэнтра няма. Ідэя колішняга кангрэса дэмсіл сябе дыскрэдытавала, і мы нямала дапамаглі выкрыццю гэтага (прычыны на тое былі важкія). А нічога новага на гэтым месцы, на жаль, не з'явілася. Ну, а снежань 2010 года, як вядома, увогуле на многім паставіў разбуральную кропку. Вось і падаецца нам з перыферыі, што некаторыя людзі, пры ўсёй сумленнасці іх памкненняў і намераў, проста спрабуюць скарыстацца момантам і перацягнуць на сябе ўвагу найперш замежных фундатараў з усім тым, што да той увагі прыкладаецца.

**— Можа, вы бачыце такую магчымасць праз удзел у выбарах, у прыватнасці ў сёлетніх, да якіх кааліцыя схіляецца?**

— Так, пры ўсім разуменні таго, што ніякіх сапраўдных выбараў у нас няма. Але партыі ствараюцца і існуюць для таго, каб змагацца за ўладу. Без гэтага якая альтэрнатыва? Сёлетнія выбары, канечне, будуць мець і ўжо маюць значную асаблівасць. У нас будзе 3 месяцы на тое, каб сустракацца з людзьмі, наведваць прадпрыемствы, хадзіць па кватэрах. Гэты час абавязкова трэба скарыстаць для асветы людзей, прапаганды і распаўсюду нашых дэмакратычных ідэй. Вельмі важна, як мы лічым, быць гатовымі да сапраўдных выбараў, бо сітуацыя ў краіне можа змяніцца за вельмі кароткі час. Ніякага іншага спосабу набыць палітычны досвед і авалодаць практыкай выбарчага працэсу па-за ўдзелам у выбарах не існуе. Таму мы, пакідаючы за сабой права выхаду з кампаніі, рыхтуем і кандыдатаў на выбары, і незалежных назіральнікаў на той выпадак, калі не будзе выканана наша галоўнае патрабаванне — вызваленне палітзняволеных. А адначасова яшчэ і дапамагаем Дзмітрыю Усу сабраць неабходную колькасць подпісаў пад патрабаваннем аб унясенні дэмакратычных змен у Выбарчы кодэкс і дэмакратычных паправак у адпаведнае заканадаўства. Літаральна на гэтым тыдні перададзім у Цэнтральную

*Заканчэнне на стар. 6*

# ДЗЕ БУДУЦЬ АДПАЧЫВАЦЬ ВЯДОМЫЯ ЛЮДЗІ КРАІНЫ

Ці сталі беларусы апошнім часам эканоміць на адпачынку? Куды ў гэтым сезоне збіраюцца некаторыя вядомыя грамадзяне нашай краіны? І ці можна добра правесці водпуск у Беларусі?

Адказы на гэтыя і іншыя пытанні шукала **"Тут і цяпер"**.

## БАРЫС ЖАЛІБА АДДАЕ ПЕРАВАГУ ПАЎДНЁВАМУ БЕРАГУ СВІСЛАЧЫ

**Доктар эканамічных навук прафесар Барыс Жаліба аб адпачынку пакуль што не задумваўся.**

— У гэтым годзе двайны выпуск дыпломнікаў: ва ўсіх ВНУ адначасова выпускаюцца "чатырох"- і "пяцігодкі", таму столькі працы, што галавы не падняць! — кажа Барыс Мікалаевіч. — Толькі з завочнікамі разабраўся, а на падыходзе ўжо пяць груп стацыянара. Як толькі разбяруся з інстытутам, можна будзе і пра адпачынак падумаць. Але наогул я дрэнна адпачываю. На поўдні апошні раз быў дзесьці ў 80-х гадах — калі яшчэ дзеці былі малымі. Звычайна мой адпачынак праходзіць на паўднёвым беразе Свіслачы. Люблю не проста валяцца на беразе рэчкі, а адпачываць актыўна. Напрыклад, на Камсамольскім возеры гуляю ў валейбол.

А што тычыцца паездак на мора, то пакуль што сродкі не дазваляюць. Але не таму, што я мала зарабляю, а таму што шмат утрыманцаў: дзеці, унукі, сваякі. І таму не атрымліваецца выбрацца кудысьці да мора...

Што тычыцца беларускіх санаторыяў, то яны амаль на 80—90 адсоткаў акупаваны расіянамі. Мая жонка цікавілася, колькі сёння каштуе пуцёўка ў "Крыніцу" (санаторый, які знаходзіцца літаральна за кальцавой дарогай) — 8 мільёнаў. Я лічу, што гэта дорага... Кошты непад'ёмныя для нашых людзей.

## ЮРЫЙ ЗІСЕР БУДЗЕ АЗДАРАЎЛЯЦЦА Ў ЧЭХІІ

**Заснавальнік і ўладальнік найбуйнейшага інтэрнэт-партала TUT.BY Юрый Зісер сёлета ўжо быў у водпуску, але збіраецца яшчэ.**

— Па зразумелых прычынах у мяне няма праблем з цаной адпачынку, — адзначае Юрый Анатольевіч. — Мы з жонкай паедзем, напэўна, у Чэхію — лячыць коскі. Як правіла, ладзім некалькі маленькіх адпачынкаў у год. Звычайна ездзім у замежныя краіны: Беларусь я аб'ездзіў, калі яшчэ грошай не было. Зараз хочацца нешта паглядзець.

Люблю мора, бываю на ім кожны год. Сёлета быў на Занзібары, у мінулым і пазамінулым — у Тайландзе, да гэтага — у Турцыі. Я аддаю перавагу актыўнаму адпачынку, ненавіджу проста валяцца на пляжы.

Да беларускіх санаторыяў я стаўлюся несур'ёзна. Адзін раз з'ездзіў і больш не хачу. Там, магчыма, і танна, але сэрвіс моцна кульгае...

## АЛЕГ ВОЛЧАК САБРАЎСЯ Ў ТАДЖЫКІСТАН

**Вядомы праваабаронца прызнаецца, што даўно марыў пабываць у тых мясцінах, дзе калісьці служыў.**

— Планую ў гэтым годзе выехаць да сяброў або ў Крым, або ў Польшчу, — распавядае Алег Волчак. — Складанасць у тым, што сям'я паедзе асобна, а я — сам па сабе, таму што мяне занеслі ў спісы невыязных, і мае маршруты будуць больш складанымі...

Звычайна адпачынак плануем загадзя, грошы адкладваем амаль увесь год. Ездзім на цягніку або на машыне — такі эканамічны варыянт.

Яшчэ ў мяне ёсць планы наведаць Таджыкістан, дзе я праходзіў службу. Але не ведаю, ці атрымаецца.

## АНАТОЛЬ ЛЯБЕДЗЬКА ЕЗДЗІЦЬ У ЛІТВУ ПРАЗ ПАРЫЖ

**Лідар АГП таксама знаходзіцца ў спісах невыязных з Беларусі. Таму нават у суседнюю Літву даводзіцца ездзіць ледзь ці не праз Парыж.**

— А дакладней, праз Маскву, — кажа Анатоль Уладзіміравіч. — Я пасля СІЗА КДБ даў сабе слова ўсё выхадныя і ўвесь вольны час прысвячаць сям'і. І калі ў мяне няма якіх-небудзь абавязковых мерапрыемстваў, то стараюся прысвячаць увесь свой час блізкім. Гэта вялікая перамена ў маім жыцці, таму што раней і выхадныя былі загружаны працай.

У гэтым годзе ў мяне ўжо быў тыдзень адпачынку, таму пакуль ніякіх рэлаксуючых ваяжоў не планую. Калі б усё было нармальна з выездам з краіны, можна было б на выхадныя махнуць на Балтыку.




*Так адпачываць удаецца мала каму*

А наогул адпачываць трэба абавязкова, бо калі ўсе 365 дзён у годзе знаходзіцца ў Беларусі, то можна проста задыхнуцца. Я думаю, што беларусы выязджаюць у Літву не толькі дзеля шопінгу, а і для таго, каб змяніць атмасферу.

### ІГАР КВАШЭВІЧ ЧАКАЕ ПАПАЎНЕННЯ Ў СЯМ'І

**Лаўрэат міжнародных конкурсаў і фестываляў, пераможца Вышэйшай лігі мэтраў сусветнага акардэона Ігар Квашэвіч плануе адправіцца ў тур па Еўропе.**

— Маё любімае месца адпачынку — Феадосія. Мы там звычайна адпачываем з маім настаўнікам, "залатым акардэонам" Расіі Валерыем Колтунам, — кажа Ігар. — Але ў гэтым годзе ў маёй сям'і чакаецца папаўненне, і я думаю, што Феадосію прыйдзецца адмяніць. Аднак збіраемся ў тур па Еўропе. Што тычыцца сродкаў на адпачынак, то, вядома, даводзіцца эканоміць. Лішніх грошай няма.

### ВОЛЬГА КАРАЧ ПАЛЮБІЛА МОРА ДЗЯКУЮЧЫ МУЖУ

**Палітык Вольга Карач у водпуску не была з 2002 года. Яна прызнаецца, што лічыла гэта пустым марнаваннем часу, бо Радзіма, як ёй здавалася, "кліча на подзвіг у любы час сутак".**

— То кагосьці арыштавалі, то тыражы затрымалі — заўсёды знойдуцца падзеі, здольныя падняць цябе з ложка, — кажа Вольга. — Перакаcalі мяне паспрабаваць адпачыць мой муж і яго стрыечная сястра — абое заўзятыя аўтамабілісты і фанаты надзвычайных падарожжаў. Яны выцягнулі мяне ў Крым у мінулым годзе. Прызнаюся: пакуль ехала, была вельмі змрочнай і ўсё больш лічыла, што задумка благая і бескарысная. А потым убачыла мора ў Еўпаторыі…

Сіняя празрыстая роўнядзь з даволі высокімі празрыстымі хвалямі і пры гэтым цёплая, як вада ў ванне… Я закахалася ў мора.

Для сябе вырашыла: цяпер мой адпачынак — гэта заўсёды мора, домік прама на беразе і поўная адсутнасць людзей (як палітык я паспяваю атрымаць асалоду ад зносін за ўсе астатнія месяцы пад завязку). Беларускаму палітыку вельмі складана планаваць адпачынак, бо што ні год — то выбары. У гэтым годзе парламенцкія выбары, як спецыяльна, прыпадаюць на восень, гэта значыць асноўная выбарчая "гарачая пара" будзе летам.

Тым не менш сёлета я збіраюся зноў паслухацца мужа, і мы паедзем на мора ў Крым на машыне, аднак, магчыма, у наступным годзе я паспрабую мора ў якім-небудзь іншым рэгіёне нашай досыць добраўпарадкаванай планеты.

Колькі грошай трачу на адпачынак? Адзін раз у год не шкада выдаткаваць абяцаны Лукашэнкам сярэдні заробак — 500 долараў.

**МАРЫНА МІТ**

# КУПАЛАЎСКІ ТЭАТР "СУПРАЦЬ" СВАБОДНАГА: ХТО СКАРЫЎ ЛОНДАН?

Травень падараваў сапраўднае свята аматарам беларускага сцэнічнага мастацтва на туманным Альбіёне. Следам за Нацыянальным акадэмічным тэатрам імя Янкі Купалы ў Лондане выступіў Беларускі свабодны тэатр. 18 траўня карэспандэнт "Тут і цяпер" наведаў легендарны "Глобус".

Мы ўжо распавядалі пра брытанскі дэбют на сцэне тэатра "Блумсберы" Купалаўскага тэатра (http://svabodaby.net/by/162/culture/1372/). Паводле адной з версій, травеньскі візіт найстарэйшай тэатральнай трупы Беларусі на туманны Альбіён стаў адказам ідэолагаў Лукашэнкі на запрашэнне падпольнага на радзіме Беларускага свабоднага тэатра да ўдзелу ў прэстыжным міжнародным фестывалі. Балазе, у выйгрышы засталіся лонданскія аматары беларускага мастацтва.

### У ЛЕГЕНДАРНЫМ "ГЛОБУСЕ"

Сучасны "Шэкспіраўскі тэатр "Глобус" ("Shakespeare's Globe Theatre") вядзе гісторыю ад 1997 года. Арэна на паўднёвым беразе Тэмзы — амаль дакладная копія гістарычнага "Глобуса" (The Globe Theatre), дзе на мяжы 16—17 стагоддзяў дзеіў Уільям Шэкспір. Нядзіўна, што канструкцыя тэатра ўражвае сваёй аўтэнтычнасцю. Амфітэатр у тры ярусы шчыльна атачае прастакутнік сцэны. Заміж звыклага партэра тут панадворак без крэслаў і даха над галавой. Калі стаіш у натоўпе наўпрост перад сцэнай, то адчуваеш сябе ў ролі "граўндлінга" — сярэднявечнага бедняка, які плаціў за ўваход у "Глобус" 1 пені ды шчоўкаў падчас імпрэзы лясныя арэхі. Цяпер замест арэхаў ва ўжытку піва, а кветкі ў "стаячы" панадворак каштуюць 7 фунтаў.

Сучасны "Глобус", рыхтык як і яго папярэднік, выраблены амаль з аднаго дрэва. Больш за тое, упершыню пасля Вялікага пажару 1666 года лонданскія ўлады санкцыянавалі саламяны дах — па-над сцэнай ды ярусамі з лаўкамі.

Адпаведна, і прадстаўленні ў "Шэкспіраўскім тэатры "Глобус" адбываюцца ў атмасферы, якая максімальна набліжана да сярэднявечнай: ніякіх мікрафонаў і дынамікаў, заміж пражэктараў і фанаграм — сціплае ўнутранае асвятленне і жывыя інструменты.

### "БАЦЬКА! БАЦЬКА!" — СКАНДЗІРАВАЛА СВІТА

Нароўні з тэатральнымі калектывамі з 36 краін Свабодны тэатр (заснавальнікі і кіраўнікі — Наталля Каляда і Мікалай Халезін) запрасілі выступіць на фестывалі




*Купалаўскі даўно візітная картка і краіны, і беларушчыны*

Globe to Globe. Гэта цэнтральны складнік сусветнага Шэкспіраўскага фестывалю-2012 і адзін з заключных акордаў Культурнай Алімпіяды. Адзначым, што "свабодаўцы", якія заваявалі папулярнасць на Захадзе не ў апошнюю чаргу дзякуючы палітызацыі мастацтва, падаваліся ў медыйных анонсах як адны з хэдлайнераў.

Калі праводзіць паралелі, то выступленне Купалаўскага тэатра, прэзентаванае амбасадай Беларусі як "найяскравейшая культурная і дабрачынная падзея года", стала своеасаблівым піярам "для ўнутранага карыстання". Выступленне легендарнай трупы інтэнсіўна рэкламавалася СМІ ў Беларусі. У Брытаніі яе анансавала хіба што рускамоўная газета "Англия".

Калі значную частку гледачоў на прэм'еры купалаўскай пастаноўкі "Выкраданне Еўропы, альбо Тэатр Уршулі Радзівіл" (рэжысёр Мікалай Пінігін) складалі беларусы і выхадцы з былога СССР, то аўдыторыя "Глобуса" на двух прадстаўленнях Свабоднага тэатра 17 і 18 траўня была пераважна англамоўнай.

Беларусы прэзентавалі ў "Глобусе" ўласную прэм'еру — шэкспіраўскага "Караля Ліра" на беларускай мове. У аснове пастаноўкі Уладзіміра Шчэрбаня — хрэстаматыйны пераклад Юркі Гаўрука, адаптаваны Халезіным.

Сучаснае прачытанне "Караля Ліра" выглядала непрыхаваным намёкам на беларускую рэчаіснасць.

*Заканчэнне на стар. 7*

*Заканчэнне.*
*Пачатак на стар. 3*

# ЯК ГЛЯДЗЯЦЬ НА “ЦЕНЯВЫ ЎРАД” З ПРАВІНЦЫІ?

выбарчую камісію пратакол аб магілёўскім сходзе з удзелам больш як 150 чалавек па стварэнні ініцыятыўнай групы па зборы подпісаў грамадзян на карысць прапаноў спадара Уса. Нам тут улада перашкаджала, аднак мы здолелі арганізаваць і правесці такі сход. Што тычыцца кандыдатаў на выбарах, то зараз мы вызначаемся з іх колькасным складам ад дэмакратычных сіл (ужо працуем з 26 актывістамі, што далі на гэта згоду), працягваем праводзіць неабходныя кансультацыі ў кааліцыі па гэтых пытаннях. Мяркуем, што кожны ад нашай кааліцыі атрымае ўзгоднены зварот да насельніцтва, на падставе якога і будзе кантактаваць і працаваць з выбаршчыкамі. Калі рашэнне будзе здымацца з выбараў, то той, хто гэтага не зробіць, будзе адказваць найперш перад сабой, перад сваім сумленнем. Ну і перад намі ў пэўным сэнсе. Бо выбаршчыкі будуць ведаць наш спіс: мы мяркуем пад ім падпісацца.

**— Слова “байкот”, такое папулярнае сёння ў грамадстве, у вашым адказе ні разу не прагучала. Патлумачце, калі ласка, чаму?**

— Так, гаворку пра арганізацыйны байкот мы сапраўды не вядзём, паколькі разумеем, што байкот патрабуе зладжанай арганізацыі, добрай дысцыпліны і высокага ўзроўню адказнасці. На жаль, наша палітычная і грамадская работа яшчэ не дасягнула такога ўзроўню. Прычын і тлумачэнняў таму шмат. Адны з іх навідавоку — улада, недасканалае заканадаўства; іншыя патрабуюць аналізу і гаворкі, нетаропкай і некароткай. Зараз пра гэта мы гаварыць не будзем, абмяжуемся наступнай канстатацыяй: да байкоту ні мы, ні выбаршчыкі не гатовы, таму і спекуляваць на гэтай тэме несумленна. А вось незалежныя назіральнікі — яшчэ адзін наш прыярытэт. Будуць нашы кандыдаты на выбарах ці здымуцца, назіральнікі застануцца пры любым раскладзе і сваю работу павінны будуць зрабіць пісьменна. Іх работа ў многім вызначае і тое, што ўсіх хвалюе і што насамрэч мае вялікае значэнне, — будуць прызнаны выбары легітымнымі ці не. Ніхто за нашых назіральнікаў не зробіць больш дакладных высноў на гэты конт і не пакладзе на стол найбольш пераканаўчыя доказы. Ужо пачынаем працаваць з імі, каб на кожным выбарчым участку ў нас было як мінімум па 2 назіральнікі. І яны ў нас ёсць. Дарэчы, на мінулых прэзідэнцкіх выбарах у нас было 400 (!) незалежных назіральнікаў. Яны прайшлі адпаведную вучобу, аддалі шмат часу і нерваў гэтай працы, праявілі грамадзянскую стойкасць. Яны выстаялі пад націскам свайго начальства, не паддаліся націску кіраўнікоў выбарчых камісій. Яны, урэшце, склалі і падалі ў адпаведныя інстанцыі больш за 70 абгрунтаваных скаргаў на парушэнні падчас выбараў… Ці можна на такім фоне гаварыць пра суцэльную слабасць апазіцыі і яе непапулярнасць?! А нядаўнія так званыя народныя сходы? Яны адбыліся, нягледзячы на адмыслова ўзмоцнены ціск з боку ўлад на іх арганізатараў і ўдзельнікаў. Я бачу, што незадавальненне жыццём па віне ўлад і ступень грамадскай стомленасці ўзмацняюцца. Засталося, дазвольце пажартаваць, самае малае — ператварыць усё гэта ў энергію супраціву. Канечне, гэта першая справа апазіцыі. Але я не ўпэўнены, што гэтага можна дамагчыся праз стварэнне “ценявога ўрада” недзе па-за межамі. Усім, як кажуць, дзякуй за дапамогу і падтрымку, але нашы праблемы могуць быць вырашаны толькі тут і толькі намі самімі. Не хапае нам каардынуючага цэнтра не там недзе, а тут, у краіне.



*Некаторым апазіцыянерам даўно прыйшоў час узяць у рукі патрэбныя кнігі*

> “Мы бачым, што недзе за мяжой утварылася група людзей, якія абвясцілі сябе самымі правільнымі апазіцыянерамі і заявілі, што будуць усімі кіраваць”.

**— Не назавеце яшчэ адзін-два прыярытэты (актуаліі), якіх трымаецца кааліцыя ў гэты перыяд?**

— Назаву. Цэны і заробкі, нізкі ўзровень жыцця людзей. Мы бачым і чуем, што адбываецца. Мы падтрымліваем супраціўныя выступленні працоўных (якіх, дарэчы, становіцца ўсё больш, і прыемна адчуваць, што без нашага ўдзелу). Мы абараняем тых, каго ўлада ці адміністрацыі прадпрыемстваў несправядліва крыўдзяць. Мы прадстаўляем такіх людзей на судах, калі яны адважваюцца змагацца з беззаконнем. Мы інфармуем аб такіх выпадках грамадства. Дарэчы, сёння я перадаў у мясцовыя дэмакратычныя СМІ інфармацыю аб тым, што Міхаіла Кавалькова, старшыню прафкама Свабоднага прафсаюза на бабруйскім заводзе трактарных дэталяў і агрэгатаў, не пускаюць на прадпрыемства — яму не выпісваюць пропуск на завод. А ён жа тут працуе, хоць, згодна з законам, і перайшоў з рабочай пасады на выбарчую пасаду вызваленага старшыні прафкама. Яго калега з афіцыйнага прафсаюза ніякіх перашкод не адчувае, а чалавек, які сапраўды стаіць на варце законных правоў рабочых, сябраў Свабоднага прафсаюза і не толькі, загадам адміністрацыі спачатку быў пазбаўлены памяшкання для працы, а цяпер вось і права ўваходзіць на прадпрыемства. Зразумела, што за інфармаваннем грамадства мы распрацуем і ажыццявім усе іншыя захады для таго, каб абараніць сп. Кавалькова і паставіць, як гаворыцца, на месца адміністрацыю бабруйскага завода…

Такім чынам, прыярытэтамі ў нас былі, застаюцца і будуць заставацца актуаліі жыцця.

**ГУТАРЫЎ ВІКТАР ВОЙТ**

**ДА ВЕДАМА**

**Юрый Новікаў, 50 год, жанаты, мае дарослага сына. Пасля тэрміновай службы ў ВМФ з 1984 года па 1999 год працаваў на магілёўскім заводзе “Зеніт”. Праявіў сябе абаронцам правоў рабочых і актывістам прафсаюзнага руху. Пасля распаду СССР і ад пачатку нацыянальнага Адраджэння працаваў на розных выбарчых пасадах у Свабодным прафсаюзе Беларускім. Дэманстраваў палітычную актыўнасць праз удзел у кампаніях і акцыях, за што неаднойчы быў затрыманы і пакараны ў судовым парадку. Апошнія 5 гадоў старшыня рэгіянальнай арганізацыі СПБ і намеснік старшыні СПБ. У 20007 годзе абраны старшынёй Каардынацыйнай рады Магілёўскай абласной кааліцыі дэмакратычных сіл.**

# КУПАЛАЎСКІ ТЭАТР "СУПРАЦЬ" СВАБОДНАГА: ХТО СКАРЫЎ ЛОНДАН?

*Заканчэнне.*
*Пачатак на стар. 5*

Лір-тыран (Алег Сідорчык) з жалезнай пальчаткай (світа вітала яго: "Бацька! Бацька!"), Кент-бязногі афганец (Дзяніс Тарасенка), Эдмунд-спецназавец (Аляксей Нарановіч), калгаснікі, сілавікі ў масках, допыты, смяротнае пакаранне… Рэжысёр пацвердзіў, што ў п'есе яны распавядалі "не пра брытанскіх каралёў і герцагаў, а пра сябе, пра сваіх каранаваных і самакаранаваных каралёў".

## "ЛОНДАН ЗАМЁР"

Няхай моўныя маркёры кшталту "масавыя беспарадкі" і "дэстабілізацыя сітуацыі" засталіся і незразумелымі англамоўнай большасці (на экранах па-ангельску дубліраваўся толькі сінопсіс сцэн), але ж асноўнае пасланне "свабодаўцаў" публіцы было прынята і зразумета. Нібы пацвярджаючы гэта, "Глобус" то смяяўся, то заміраў так, што ў амфітэатры можна было пачуць, як ляціць камар.

"Я ніколі не чуў такой цішыні ў "Глобусе". Калі Лір вывозіць пакараную смерцю дачку і аплаквае яе, усе заміраюць, перастаюць дыхаць і, здаецца, нават імкнуцца сінхранізаваць тахканне сэрцаў, каб ільга было напоўніцу адчуць усю жахлівасць сітуацыі перад намі. Падалося, прынамсі, на хвіліну Лондан замёр, каб атрымаць досвед, не абцяжараны знешнімі фактарамі", — адзначыў у рэцэнзіі узыходзячая зорка брытанскай крытыкі Дэн Хатан.

Нягледзячы на тое, што асноўнай рабочай мовай тэатра ёсць руская, акцёры досыць арганічна выступалі па-беларуску. Жаночыя спевы і галашэнні ў духу народнай аўтэнтыкі надалі дзеі нацыянальны каларыт. Да таго ж "свабодаўцы" звыкла эпаціравалі публіку сексуальнасцю аголеных целаў, эмацыйным гвалтам, арыгінальнасцю і натуралістычнасцю спецэфектаў.

"У пятніцу ўвечары Беларускі свабодны тэатр прадставіў адну з лепшых пастановак "Караля Ліра", якія даводзілася бачыць Лондану, — піша адзін з вядучых рэсурсаў мастацкай крытыкі ў Вялікабрытаніі The Arts Desk. — Забудзьцеся на нашых мясцовых Ліраў з аголенымі тэатральнымі рыцарамі і акцёрамі ва ўтаймавальных кашулях: усё было настолькі жорстка і прыгожа, наколькі гэта можна было ўявіць. Беларускі свабодны тэатр страсянуў "Глобус" ад панадворка да самых кроквяў".

## ХТО ЎРАЗІЎ БОЛЬШ?

Канечне, параўноўваць акадэмічны дзяржаўны тэатр, што існуе на грошы беларускіх падаткаплацельшчыкаў, і невялікую мадэрновую трупу, якая збірае фінансы на наступную пастаноўку "ўсім светам", абсурдна. Гэтаксама як і ставіць на адну дошку гістарычную рэканструкцыю прыгоннага тэатра 18 стагоддзя і сучасную версію шэкспіраўскай класікі. Аднак правесці пэўныя паралелі паміж двума выступамі варта.

Па-першае, лонданскі дэбют выдатнага Купалаўскага тэатра, на жаль, прайшоў незаўважаным для мясцовых тэатралаў. Дзяржаўныя СМІ бадзёра запэўнівалі, што "купалаўцы" "зрабілі фурор у Лондане" і на спектаклі прысутнічалі "прадстаўнікі дыпкорпуса, мясцовых улад, парламента, грамадскія і культурныя дзеячы". Аднак з часу выступлення акадэмічнага тэатра (10 траўня) нам не ўдалося знайсці ніводнай згадкі пра тэатр у брытанскіх медыя. У прынцыпе, больш можна нічога не пісаць. Гэта прысуд.

Па-другое, зыходзячы з рэакцыі залаў і ацэнак небеларускіх гледачоў, з якімі ўдалося перамовіцца, пастаноўка Свабоднага тэатра значна лепш "пацэліла" ў замежную аўдыторыю, выразна данесла пасланне.

## МАСТАЦТВА ЦІ ПАЛІТЫЧНАЯ КАНФРАНТАЦЫЯ?

І, нарэшце, самае непрыемнае.

Замест таго, каб рабіць супольную справу і ўмацоўваць падмурак беларускай культуры (не палітычны рэжым ці ўласныя амбіцыі), абодва бакі перавялі "беларускія дні" ў Лондане ў плоскасць палітычнай канфрантацыі.



*"Глобус" стаў арэнай "барацьбы" паміж нашымі двумя тэатрамі*

Падобна на тое, што прадстаўнікі афіцыйнага Мінска ўвогуле зладзілі "гастролі" Купалаўскага ў асноўным дзеля таго, каб стварыць бачнасць канкурэнцыі апазіцыйнаму Свабоднаму тэатру. Але, як выявілася, магчымасці дзяржавы Беларусь у галіне маркетынгу і піяру за мяжой не вытрымалі канкурэнцыі з паспяховай прамацыйнай стратэгіяй Свабоднага тэатра. У выніку супрацьстаянне атрымалася толькі ў беларускіх СМІ і, відаць, у чыноўніцкіх справаздачах наверх.

У сваю чаргу ідэолагі Свабоднага тэатра распачалі пафасную і малапрывабную кампанію шальмавання візіту найстарэйшага беларускага тэатра. Мікалай Халезін прыраўнаваў прыезд "купалаўцаў", сярод якіх нямала носьбітаў незалежнай грамадзянскай пазіцыі, да прапагандысцкай акцыі на карысць рэжыму Лукашэнкі. Арганізаванае ж амбасадай Беларусі мерапрыемства мела падкрэслена апалітычны і дабрачынны характар. "Зразумела, чаму хлопец пераймаецца. Добра было заўсёды лічыцца адзіным беларускім тэатрам у Еўропе, а тут з'яўляецца яшчэ адзін", — адрэагаваў у інтэрв'ю TUT.BY кіраўнік Купалаўскага тэатра Мікалай Пінігін.

У гэтай сітуацыі важна памятаць: абодва тэатры робяць патрэбную справу, кожны ў сваёй нішы. Штучнае ж пашырэнне палітычнага расколу ў беларускім грамадстве на сферы і сітуацыі, дзе супярэчнасцей можна пазбягаць, толькі паслабіць пазіцыі ўсіх тых, хто бачыць лепшую будучыню для Беларусі.

**КАСТУСЬ ЛАШКЕВІЧ, ЛОНДАН**

# ПЕНТХАЎС ЗА 3,5 МІЛЬЁНА ДОЛАРАЎ

Сярод пакупнікоў элітнага жылля ў Мінску беларусаў “не менш за расіян, канадцаў, амерыканцаў ды іранцаў з сірыйцамі”.

У “клубным доме” па вуліцы Кісялёва ў Мінску прадаецца пентхаўс. Агульнай плошчай амаль 1 тысяча квадратных метраў, коштам — 3,5 мільёна долараў. Здавалася б, хто, апроч замежнікаў, можа сабе дазволіць такую раскошу? Але, як даведалася Еўрарадыё, як гэта ні дзіўна, але беларус ужо прыходзіў, каб “прыцаніцца” на месцы!

Прадавец пентхаўса: “І расіяне цікавіліся, і беларусы цікавіліся — нават глядзелі. І пад нейкую амбасаду цікавіліся гэтай нерухомасцю. Спектр вялікі, і беларусаў, скажу я вам, дастаткова, якія сабе гэта могуць дазволіць”.

Прычым, у доме такіх пентхаўсаў два. Адзін ужо набылі! Беларус гэта ці замежнік, дакладна не вядома. І самыя дарагія кватэры па 1 мільёне і вышэй у гэтым 48-кватэрным доме разабраныя — засталося некалькі танных па 350 тысяч долараў.

Суразмоўца Еўрарадыё не бачыць у гэтым нічога дзіўнага. Маўляў, калі беларусы выкупляюць цэлыя пад’езды ў панэльных дамах....

**Прадавец пентхаўса:** *“Гэта кватэра за 3,5 мільёна, гэта не тое ж, што ў Лошыцах у панэльным доме набыць два пад’езды. Што, у прынцыпе, абыйдзецца ў тыя ж грошы. І вось вы жывяце на 9-ці паверхах. Ёсць такія варыянты, можа вы не ведаеце, але ёсць такія людзі ў Мінску, якія набываюць сабе пад’езд”.*

Менавіта за прэстыж плацяць пакупнікі элітнага жылля. Як высвятляецца, плаціць за такі прэстыж згодны шмат хто з нашых суайчыннікаў. У элітным доме “Ля Траецкага” ўсе самыя дарагія двухузроўневыя кватэры за 1 мільён 10 тысяч долараў разабраныя.

**ЗМІЦЕР ЛУКАШУК, EURARADIO.FM**






**Заснавальнік** ТАА “Тут і цяпер” **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактар** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 23:45 24.05.12
Тыраж 299 экзэмпляраў